ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 16 жніўня 2000 года

№ 63 (8132)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 30 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ перадавікоў на жніве-2000

### Экіпажы камбайнаў

*Мікалай Мікалаевіч* **Дрозд** *і Мікалай Іванавіч* **Белакурскі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на Е-527 намалацілі* **1090 тон збожжа.**

*Міхаіл Васільевіч* **Вербенка** *і Аляксандр Яўгенавіч* **Іваніцкі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на "Дон-1500" намалацілі* **874 тоны збожжа.**

*Аляксандр Сяргеевіч* **Петранкоў** *і Аляксей Міхайлавіч* **Макаронак** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **795 тон збожжа.**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *і Сяргей Яўгенавіч* **Максімаў** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **551 тону збожжа.**

*Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў** *і Аляксандр Анатольевіч* **Міхалап** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **539 тон збожжа.**

*Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Анатоль Васільевіч* **Вашукевіч** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **440 тон збожжа.**

*Уладзімір Ільіч* **Бычкоў** *і Васіль Васільевіч* **Буталенка** *з калгаса імя Дзяржынскага на "Дон-1500" намалацілі* **400 тон збожжа.**

*Аляксандр Міхайлавіч* **Салановіч** *і Сяргей Міхайлавіч* **Чудапал** *з калгаса "Радзіма" на "Дон-1500" намалацілі* **360 тон збожжа, а С.М.Чудапал** на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў **410 тон збожжа.**

*Уладзімір Аляксеевіч* **Грамыка** *з сынам* **Канстанцінам** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на СК-5 "Ніва" намалацілі* **350 тон збожжа.**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *і Аляксандр Міхайлавіч* **Маісеенка** *з саўгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **348 тон збожжа.**

*Міхаіл Ягоравіч* **Ластачкін** *з сынам Аляксандрам з Жыліцкага сельгаскаледжа на "Дон-1500" намалацілі* **313 тон збожжа.**

*Аляксандр Еўдакімавіч* **Нікіфараў** *з сынам* **Аляксандрам** *з калгаса "Беларусь" на "Дон-1500" намалацілі* **260 тон збожжа.**

*Валерый Раманавіч* **Піскуноў** *і Іван Аляксандравіч* **Барысёнак** *з калгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **242 тон збожжа.**

*Сяргей Спірыдонавіч* **Шапоткін** *і Арсеній Аляксеевіч* **Скрыпуноў** *з СЗАТ "Бераснёўскае" на "Дон-1500" намалацілі* **216 тон збожжа.**

### На адвозцы

*Валерый Васільевіч* **Шчэрбіч** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **1249 тон збожжа.**

*Аляксандр Рыгоравіч* **Ермалаеў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **791 тону збожжа.**

*Васіль Іванавіч* **Архіпенка** *з СКП "Ніва" на КамАЗе даставіў на Бабруйскі КХП* **651 тону збожжа.**

*Васіль Савельевіч* **Комар** *з калгаса імя Кірава на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **526 тон збожжа.**

*Уладзімір Уладзіміравіч* **Чарапуха** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **429 тон збожжа.**

*Генадзь Міхайлавіч* **Семенчукоў** *з Жыліцкага сельгаскаледжа на МАЗ-5549 перавёз ад камбайнаў* **402 тоны збожжа.**

*Пётр Анатольевіч* **Кучынскі** *з калгаса "Камуніст" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **361 тону збожжа.**

*Сяргей Уладзіміравіч* **Казлоўскі** *з калгаса імя Дзяржынскага на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **350 тон збожжа.**

*Міхаіл Андрэевіч* **Нікіфараў** *з СЗАТ "Бераснёўскае" на САЗ-3507 перавёз ад камбайнаў* **322 тоны збожжа.**

*Васіль Савельевіч* **Белаглазаў** *з саўгаса імя Кірава на ЗІЛ-554 перавёз ад камбайнаў* **313 тон збожжа.**

*Валянцін Дзмітрыевіч* **Ермалаеў** *з калгаса "Беларусь" на САЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **197 тон збожжа.**

### *ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ*

**аб ходзе ўборкі збожжавых і зернебабовых культур у гаспадарках раёна на 15 жніўня г.г.**

| Назва гаспадарак | Убрана ў % да пасеянага | Сярэдняя ўраджайн ц/га | Прададз. дзярж. ў % да плана |
|---|---|---|---|
| СКП «Чырвоны баец» | 79,5 | 35,5 | - |
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 77,9 | 45,0 | 57,5 |
| імя Дзяржынскага | 72,4 | 23,0 | 74,0 |
| с-с «Шыннік» | 70,2 | 14,2 | 101,0 |
| СКП «Ніва» | 65,4 | 32,2 | 88,0 |
| «ІІІ з'езд Саветаў» | 64,2 | 25,0 | 96,0 |
| імя Калініна | 61,7 | 17,6 | 96,8 |
| імя Свярдлова | 59,7 | 10,7 | 42,7 |
| «Камуніст» | 58,6 | 25,5 | 56,8 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 53,9 | 26,0 | 36,6 |
| імя Кірава | 49,8 | 22,8 | 39,9 |
| с-с імя Кірава | 48,3 | 18,2 | 38,2 |
| «Беларусь» | 46,4 | 16,2 | 75,3 |
| «Радзіма» | 46,1 | 27,1 | 48,2 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 43,2 | 14,0 | 58,0 |
| імя Чапаева | 37,9 | 11,0 | 25,0 |
| імя Ільіча | 25,2 | 11,0 | 64,0 |
| Усяго па раёне: | 58,5 | 26,1 | 56,1 |

## ВАЖКІ КОЛАС "НІВЫ"



*Жніва ў СКП "Ніва" даўно пераваліла "за экватар". Яшчэ б з тыдзень сухога надвор'я і можна было б, што называецца, падбіваць бабкі. А сёння можна канстатаваць, што тут убрана азімая пшаніца і жыта на ўсёй плошчы. Ураджайнасць гэтых культур прыкладна аднолькавая — каля 33 цэнтнераў з гектара. Яравая пшаніца ўрадзіла таксама нядрэнна — 30 цэнтнераў на круг пакуль што атрымліваецца, за трыццаць цэнтнераў дае ячмень, які ўбіраецца пераважна прамым камбайнаваннем. Каб не было страт, травяністыя ўчасткі папярэдне скошваюцца ў валкі, прасушваюцца, а потым абмалочваюцца.*

*Лідэрства на жніве з першых дзён захапіў экіпаж вопытных механізатараў Аляксандра Сяргеевіча Петранкова і Аляксея Міхайлавіча Макаронка. На ўчарашнюю раніцу на іх рахунку было 795 тон збожжа. Калі і далей так пойдуць справы, перакрочаць хлопцы прэстыжны рубеж у 1000 тон. Дарэчы, А.С.Петранкоў гэтую вышыню браў у папярэднія гады. Зладжана працуюць і два другія экіпажы "Донаў", адзін з якіх мы сфатаграфавалі ў полі за вёскай Вішанька.*

*Лепшым на адвозцы збожжа ад камбайнаў з'яўляецца Уладзімір Васільевіч Малахоўскі. Ён даставіў на збожжаток ужо 564 тоны. Васіль Іванавіч Архіпенка на сваім КамАЗе адвозіць збожжа на камбінат хлебапрадуктаў. На яго рахунку 650 тон хлеба. Продаж хлеба СКП "Ніва" вядзе рытмічна і па ўсяму адчуваецца, што дзяржзаказ будзе выкананы ў бліжэйшыя дні. Адначасова засыпаюцца насенны і страхавы фонды.*



*У "Ніве" пастаянна помняць аб участках вяскоўцаў. Не забылі пра іх і сёлета. Прысядзібныя палоскі абмалочаны на 70 працэнтах ад наяўнай плошчы.*

*Кіпіць работа на ўборцы саломы, якая скатваецца ў рулоны і складзіруецца. Тут занята механізаванае звяно з сямі адзінак тэхнікі. З пачатку жніва ўжо засціртавана яе каля тысячы тон. А гэта дадатковы корм для грамадскага статка.*

*Паралельна ў СКП рыхтуюць глебу пад азімыя, пад якія адведзена 450 гектараў. Папярэднікам пад пшаніцу будзе канюшынішча, пад жыта — ячменішча і шматгадовыя злакавыя травы. На 15 жніўня ўжо ўзарана 220 гектараў. Тут старанасцю вызначаецца Рыгор Сяргеевіч Петранкоў, механізатарскі стаж якога 34 гады. На трактары К-701 ён пастаянна перавыконвае дзённыя заданні.*

*Уборачны канвеер у СКП "Ніва" працуе без збояў. Тым не менш напружанне на жнівеньскім полі не спадае.*



**Пятро СУРЫНОВІЧ.**

***На здымках: экіпаж У.П.Міхальчука і Г.П.Кайданава; Р.С.Петранкоў.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## ПРЭС-ЦЭНТР РАЙВЫКАНКАМА ІНФАРМУЕ

Здаецца, яшчэ зусім нядаўна Прэзідэнт краіны А.Р.Лукашэнка падпісаў Указ аб правядзенні выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога скліканне, а да 15 кастрычніка — вызначанай даты засталося менш двух месяцаў. Таму на мінулай планёрцы не выпадкова была заслухана інфармацыя загадчыка арганізацыйнага аддзела райвыканкама Н.П.Суравец аб праводзімай рабоце ў раёне па падрыхтоўцы да гэтай важнай палітычнай кампаніі. Н.П.Суравец паведаміла, што зараз ідзе вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Па Быхаўскай выбарчай акрузе № 66 ужо вылучаны:

— КАМАЙ Аляксей Сцяпанавіч — начальнік аддзела транспартных перавозак, начальнік рэспубліканскай інспекцыі котланагляду, стандартызацыі і метралогіі Міністэртсва сельскай гаспадаркі і харчавання, які з'яўляецца зараз дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ад Быхаўскага раёна. Камай А.С. — член камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД.

— МАРОЗАЎ Уладзімір Іванавіч — намеснік начальніка ўпраўлення КДБ Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты працягваецца.

Абмяркоўваліся і чыста гаспадарчыя пытанні. Старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка даручыў начальніку рамонтна-будаўнічага ўчастка С.А.Сініцкаму ў бліжэйшы час закончыць добраўпарадкаванне сквера, што каля Белаграпрамбанка. Былі выказаны сур'ёзныя прэтэнзіі да начальніка ДРБУ-197 А.В.Кукулава, які не прыняў неабходных мер па падрыхтоўцы абласнога семінара. А.В.Кукулаву аб'яўлена вымова, і райвыканкам выступіў з хадайніцтвам перад вышэйстаячай арганізацыяй дарожнікаў аб пазбаўленні А.В.Кукулава прэміяльных за жнівень.

## СТВОРАНА КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЯ ГРУПА

Распараджэннем райвыканкама за №240 ад 07.08.2000 года ў сувязі з падрыхтоўкай да правядзення выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання пры раённым выканаўчым камітэце створана кансультацыйная група для вырашэння ўзнікаючых пытанняў і аказання прававой дапамогі насельніцтву раёна.

У саставе групы — адказныя работнікі райвыканкама, аддзела ўнутраных спраў, пракуратуры, райбальніцы, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, рэдакцыі раённай газеты "Кіравец". Узначальвае кансультацыйную групу намеснік старшыні райвыканкама Л.Д.Смагін.

